



**Гродна**

№1(436),
10 студзеня 2016

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




# ТОП-10 КАЛЯДНЫХ ПЫТАННЯЎ.

## ШТО РАБІЦЬ, КАЛІ КСЁНДЗ ПРЫХОДЗІЦЬ НА КАЛЯДУ?




працяг на с. 2


# КУЛЬТ БОЖАЙ МІЛАСЭРНАСЦІ

***У Паўсюдным Касцёле распаўсюджаны шматлікія культы: Найсвяцейшага Сэрца Езуса, Маці Божай, Святога Духа і інш. Самым новым і вядомым з'яўляецца культ Божай міласэрнасці. Не прайшло і сотні гадоў, як Госпад падараваў яго людзям праз святую сястру Фаўстыну Кавальскую. Манахіня запісала Божы загад у сваім "Дзённіку", і такім чынам яна стала найвялікшай прапаведніцай міласэрнасці Госпада.***

### СУТНАСЦЬ КУЛЬТУ

Культ Божай міласэрнасці заснаваны на поўным даверы Усявышняму і накіраваны на шанаванне міласэрнасці Бога ў Тройцы Адзінага. Пакора з'яўляецца не толькі духам гэтай адданасці, але і ўмовай для атрымання ласкаў. Акрамя таго, пазіцыя даверу датычыць праяўлення міласэрнасці ў адносінах да бліжніх. Чалавек, які выконвае дадзеныя ўмовы, з'яўляецца жывым вобразам Божай міласэрнасці.

Існуюць і пэўныя абяцанні, якія Езус даў людзям пры ўмове спадзявання на дабрыню Бога і міласэрнасці ў дачыненні да бліжніх. Памылкова разлічваць на іх пры шанаванні культу неналежным чынам. Часта гэта адбываецца з-за фрагментарнага ўспрымання актаў Божай міласэрнасці. "Калі хтосьці, напрыклад, чытае Вяночак да Божай міласэрнасці, але пры гэтым не мае ў душы спадзявання, ён не атрымае ні адной з літасцяў, якія Езус звязаў з выкананым у даверы чытаннем гэтага вяночка", – сцвярджае прафесар Ігнат Ружніцкі, які даў тэалагічную падставу культу ў дакладзе, падрыхтаваным для патрэб беатыфікацыйнага працэсу сястры Фаўстыны.

Такім чынам, варта ведаць пра 5 форм культу, якія сястра Фаўстына атрымала ад Хрыста: абраз Езуса Міласэрнага, свята Міласэрнасці, Вяночак да Божай міласэрнасці, Гадзіна міласэрнасці і распаўсюджванне культу Божай міласэрнасці. Падрабязней паразважаем над кожным з іх.


працяг на с. 3


### Каляндар падзей

*10 студзеня* свята Хросту Пана. Заахвочваем да малітвы падзякі за атрыманы сакрамант святога хросту.

*17 студзеня* Сусветны дзень мігранта і бежанца. Молімся за людзей, пазбаўленых умоў жыцця.

*18–25 студзеня* Тыдзень паўсюднай малітвы аб адзінстве хрысціян.

### Запрашаем!

*Праграма каталіцкай рэдакцыі*

*"Голас Евангелля"*
*Каталіцкая праграма на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё.*
***Кожную нядзелю ў 8.00***
*запрашаем разважаць над Евангеллем і дзяліцца Божым словам.*
***Гродна 103,0 FM***
***Свіслач 105,9 FM***

### Ружанцовыя інтэнцыі:

*Студзень*

*Аб паглыбленні ласкі хросту ва ўсіх ахрышчаных.*

*Аб развіцці хрысціянскіх каштоўнасцей у нашым грамадстве і народзе.*

*Аб еднасці паміж хрысціянскімі канфесіямі ў Беларусі.*

### Інтэрнэт-апытанне
www.grodnensis.by

**Ці чакаеце Вы ў гэтым годзе ксяндза з душпастарскім візітам (калядой)?**

- так, як і кожны год
- у маёй парафіі каляда раз на некалькі гадоў
- у гэтым годзе не
- мая кватэра ўжо асвечана
- ксёндз ужо быў адзін раз, хопіць
- не, я не прымаю ксяндза па калядзе
- не, баюся размоў на тэмы аб маральнасці
- цяжка сказаць


**выкажыся**

**"Падзякуем Богу, які заўсёды прысутны, блізкі і міласэрны" – папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### СВЯТА ХРОСТУ ПАНА
**Лк 3, 15–16. 21–22**

Калі народ чакаў і калі ўсе разважалі ў сэрцах сваіх пра Яна, ці не Хрыстос ён, Ян адказаў усім: “Я хрышчу вас вадою, але ідзе мацнейшы за мяне, якому я не варты развязаць раменьчык на сандалях Яго. Ён будзе хрысціць вас Духам Святым і агнём”.

І сталася, калі хрысціўся ўвесь народ, і калі Езус, атрымаўшы хрост, маліўся, раскрылася неба, і Дух Святы ў цялесным выглядзе, як голуб, сышоў на Яго, і быў голас з неба, які прамовіў: “Ты Сын Мой умілаваны, Цябе ўпадабаў Я”.

### ПАЧУЦЬ ГОЛАС АЙЦА

Кожны з нас у хвіліну святога хросту быў залічаны да ліку Божых дзяцей. Хрыстос ужо ў першыя хвіліны нашага жыцця далікатна гаворыць нам, што мы з’яўляемся ўмілаванымі Божымі дзецьмі. Ласка святога хросту павінна быць моцна ўкаранёная ў нашыя сэрцы. Што гэта значыць? Малое сэрца, якое ў хвіліну святога хросту становіцца чыстым, якое прымае Бога, павінна заўсёды быць Ім напоўнена. На жаль, не ўсе памятаюць дату свайго духоўнага нараджэння, той момант, калі мы з Хрыстом распачалі цудоўную вандроўку свайго жыцця. Таму ў свята Хросту Пана мы можам нанова распачаць такую духоўную вандроўку, каб у чарговы раз пачуць голас Айца: “Гэта мой сын умілаваны, гэта мая ўмілаваная дачка”.

### ІІ НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ
**Ян 2, 1–12**

У Кане Галілейскай было вяселле і Маці Езуса была там. Быў запрошаны на вяселле таксама і Езус, і вучні Ягоныя. І, калі не хапіла віна, Маці Езуса сказала Яму: “Не маюць віна”. Адказаў Ёй Езус: “Жанчына, ці гэта Мая або Твая справа? Яшчэ не прыйшоў час Мой”. Маці Яго сказала слугам: “Тое, што Ён скажа вам, зрабіце”. Было ж там шэсць каменных збаноў, пастаўленых для юдэйскага ачышчэння, якія змяшчалі дзве або тры меры. Езус сказаў: “Напоўніце збаны вадою”. І напоўнілі іх даверху. І кажа ім: “Цяпер зачэрпніце і занясіце кіраўніку вяселля”. І панеслі. Калі ж кіраўнік вяселля пакаштаваў ваду, што стала віном, – і не ведаў, адкуль яно ўзялося, ведалі толькі слугі, якія чэрпалі ваду, – то паклікаў жаніха і кажа яму: “Кожны чалавек падае спачатку добрае віно, а калі нап’юцца, тады горшае. Ты ж зберог добрае віно аж дагэтуль”. Такі пачатак цудаў учыніў Езус у Кане Галілейскай і аб’явіў славу сваю, і паверылі ў Яго вучні Ягоныя.

Пасля гэтага прыйшоў Ён у Кафарнаум, Ён сам і Маці Ягоная, і браты, і вучні Ягоныя, і прабылі там некалькі дзён.

### ЗРАБІЦЬ ТОЕ, ШТО СКАЖА ЕЗУС

Сёння даволі шмат розных настаўнікаў, якія падказваюць, што чалавек павінен рабіць, як дзейнічаць. На жаль, мы так моцна захапляемся, слухаючы розныя псеўданавукі, што забываемся пра тое, што адзіным Настаўнікам для нас з’яўляецца Хрыстос. А Яго голас, Яго навука – гэта Евангелле. На старонках Евангелля мы знаходзім усё, што нам неабходна ў жыцці, знаходзім адказ на кожнае наша жыццёвае пытанне, у любой сітуацыі, нават у такой, як вяселле. Езус хоча заўсёды быць з намі і благаслаўляе нам, таму давайце слухаць Яго навуку.

*Кс. Павел Салабуда*



## СЛОВА РЭДАКТАРА

*Кс. Павел Салабуда*

# Каляда – гэта час “духоўнага рамонту”

***Студзень у нашых парафіях – гэта месяц каляздавання. У гэты час мы сустракаемся з душпастарамі ў сваіх дамах у сямейнай атмасферы. А ці ўсім патрэбна каляда? Ці належным чынам мы перажываем гэты час? Давайце сёння паразважаем менавіта над гэтым.***

Каляда патрэбна як пробашчу, так і парафіянам. У пробашча ёсць трохі больш часу, каб пазнаць сваю парафію, паразмаўляць з людзьмі, даведацца пра змены, якія адбыліся ў іх сям’і за апошні год, паклапаціцца аб духоўным развіцці сваіх парафіян, просячы аб Божым благаслаўленні для жыхароў на новы год. У сваю чаргу парафіяне маюць цудоўную магчымасць паразмаўляць са сваім душпастарам, задаць хвалюючыя пытанні і супольна памаліцца. Вельмі важна, калі цэлая сям’я, усе жыхары дома збіраюцца на душпастарскі візіт. Супольная малітва ў інтэнцыі сям’і, а таксама асвячэнне дома павінны стаць важным элементам жыцця веруючых людзей на пачатку новага года.

Але ёсць розныя душпастары і розныя парафіяне. Некаторыя скардзяцца, што ксёндз хутка памаліўся і ўцёк з дома, патлумачыўшы, што мае яшчэ шмат дамоў і мала часу. Часам, наадварот, можна пачуць, што душпастар задае зашмат пытанняў, правярае пацеры ў дзяцей і дарослых, публічна “спавядае” з жыцця. На прыкладзе гэтых сітуацый мясцовым душпастарам, напэўна, трэба задумацца над сваім калядаваннем і зрабіць усё, каб наракання з боку людзей не было. Але нараканні чуваць і з боку душпастараў. Можна прывесці цэлыя літаніі душпастарскіх сустрэч, калі мужчына ўцякае з дому, дзеці баяцца ксяндза, жыхары сустракаюць пробашча ў халаце і г.д.

**Дык як павінна выглядаць каляда? Што можна зрабіць з абодвух бакоў, каб гэта была мілая сустрэча, у якой прысутнічае Бог?**

Перш за ўсё, кожны павінен падрыхтавацца да каляды. Пробашч павінен загадзя распісаць адрасы дамоў так, каб хапіла часу на размову, сабраць інфармацыю з парафіяльнай картатэкі, каб ведаць на якую тэму можна і варта паразмаўляць з жыхарамі дома. Парафіяне павінны загадзя даведацца пра дату прыходу святара, каб запланаваць свой час на сустрэчу з душпастарам, падрыхтаваць дом і месца для малітвы, годна апрануцца для сустрэчы з дарагім госцем, падумаць, якія пытанні варта задаць свайму ксяндзу, каб атрымаць больш карыснай інфармацыі. Але самае важнае з абодвух бакоў – гэта жаданне сустрэцца на супольнай малітве. Калі ўсе ў гэтым зацікаўлены, то і сустрэча адбудзецца ў вельмі прыемнай атмасферы: ніхто не будзе ўцякаць з дому ў страху, што ксёндз спытаецца пацеры, а святар, убачыўшы, што сям’я добра падрыхтавалася да спаткання, захоча там пабыць трохі даўжэй.

У канцы пытанне, якое заўсёды на вуснах людзей: колькі трэба ахвяраваць за каляду? У 2012 годзе я пісаў артыкул у нашу газету на гэтую тэму. Каляда – гэта не збіранне грошай, і няма такой банкноты, за якую можна купіць чыстае, адкрытае і радаснае сэрца. Менавіта так выглядае сэрца, якое чакае Бога ў асобе святара. Думаю, што кожны сёння пастараецца зразумець, што душу нельга купіць, а каляда з’яўляецца ласкай ад Бога, якую ў Год міласэрнасці трэба абавязкова выкарыстаць.



# ТОП-10 КАЛЯДНЫХ ПЫТАННЯЎ.
## ШТО РАБІЦЬ, КАЛІ КСЁНДЗ ПРЫХОДЗІЦЬ НА КАЛЯДУ?

● працяг са с. 1

**1. Як вітаемся з ксяндзом?**

І вітаем ксяндза, і развітваемся з ім, канешне, па-каталіцку: “Хвала Езусу Хрысту”.

**2. Што трэба падрыхтаваць дома на каляду?**

Перш за ўсё, чакаючы ксяндза як дарагога госця, варта прыбрацца дома. У галоўным пакоі (напэўна, не на кухні), падрыхтаваць засцелены белым абрусам стол, на ім – крыж і дзве свечкі. Калі дома ёсць асвечаная вада, яна таксама можа быць пастаўлена на стале.

**3. Як выглядае сустрэча ксяндза?**

Вельмі добра, калі святара каля дзвярэй сустракае сам гаспадар. Гэта дэманстрацыя высокай уласнай культуры і павагі да госця. Пасля сустрэчы гаспадар запрашае ксяндза ў пакой для супольнай малітвы. Перад гэтым ён можа пазнаёміць святара з членамі сям’і. Затым адбываецца малітва, пасля якой ксёндз асвячае дом ці кватэру, праходзячы разам з жыхарамі ад пакою да пакою. Пасля асвячэння варта разам сесці і паразмаўляць. На заканчэнне сустрэчы трэба падзякаваць душпастару за візіт і запрасіць на наступны год.

**4. Якія пытанні можна задаваць святару падчас каляды?**

У першую чаргу, пытанні, на якія мы шукаем адказы. Пры дапамозе Хрыста Касцёл дапамагае чалавеку знайсці адказы на ўсе праблемы яго жыцця. Размову можа весці святар або хтосьці з сям’і. Варта задаць пытанні на тэму ўласнага духоўнага развіцця, паколькі святар з’яўляецца спецыялістам “па душах”. Можна пацікавіцца жыццём парафіі і тым, што ў ёй адбываецца.

**5. У які момант трэба скласці ахвяраванне?**

“Працэдура” ўсоўвання грошай у кішэню ці сумку святара не заўсёды прыемная. Трэба загадзя ўкласці ахвяраванне ў чысты канверт і ў канцы душпастарскага візіту падаць яго ксяндзу са словамі, што гэта ахвяраванне на касцёл. Варта складваць ахвяраванне ад сэрца, памятаючы, што радаснага даўцу любіць Бог.

**6. Якога кошту павінна быць ахвяраванне?**

Няма ніякіх правіл адносна таго, якога кошту павінна быць ахвяра за калядаванне. У Касцёле ніколі на гэта не выстаўляўся ніякі цэннік. Абавязку складання платы за каляду не існуе, гэта толькі добраахвотны жэст. Таму кожны сам вырашае, колькі ён можа скласці ў ахвяраванне за каляду свайму душпастару.

**7. Ці спяваюцца калядкі падчас каляды?**

Падчас душпастарскага візіту – як спачатку, так і ў канцы – можна заспяваць калядкі, памятаючы, што той, хто спявае, двойчы моліцца. Вельмі часта калядкі любяць спяваць дзеці. Нават падчас размовы яны могуць падзяліцца сваёй радасцю ад нараджэння Езуса праз калядныя песні. Дыск з калядкамі можна таксама ўключыць на ўваход ксяндза.

**8. Ці можна запрашаць на каляду знаёмых, сяброў?**

У першую чаргу, гэты час варта выкарыстаць для сустрэчы сям’і, жыхароў дома з ксяндзом. Калі хтосьці са знаёмых таксама хоча далучыцца да сустрэчы ў вашым доме, адмаўляць не належыць. Трэба толькі прыгадаць ім, што гэта душпастарскі візіт, а не нейкая іншая нагода. Варта ведаць тэрмін каляды і зарэзерваваць гэты дзень на калядную сустрэчу з душпастарам.

**9. Як трэба апрануцца на каляду?**

Ксяндза варта сустракаць так, як вы сустракаеце сваіх дарагіх гасцей падчас важных жыццёвых падзей. Напэўна, апрануцца трэба годна і сціпла, паколькі гэта таксама з’яўляецца выражэннем уласнай культуры і паводзін.

**10. Калі я хаджу не ў парафіяльны касцёл, ці можа мой дом асвяціць іншы ксёндз?**

Можна хадзіць у любы касцёл, але нельга забывацца аб прыналежнасці да парафіяльнай сям’і. Звычайна ўсе святары прытрымліваюцца тэрытарыяльнага падзелу калядавання, а таму варта, каб на каляду прыйшоў святар, які працуе ў парафіяльным касцёле.



# КУЛЬТ БОЖАЙ МІЛАСЭРНАСЦІ

● працяг са с. 1

## 1. Абраз Езуса Міласэрнага

Адным з відаў шанавання Божай міласэрнасці з'яўляецца абраз, які ўваходзіць у лік найбольш вядомых у гісторыі Касцёла і ў сучасным свеце малюнкаў уваскрослага Езуса. Менавіта такім 22 лютага 1931 года Гасподзь абвяўіўся сястры Фаустыне ў кляштары Кангрэгацыі Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці ў Плоцку. "Увечары, знаходзячыся ў келлі, я ўбачыла Езуса Хрыста, апранутага ў белае. Адна Яго рука была паднятая для благаслаўлення, а другая дакраналася да адзення на грудзях. Са складкі адзення на грудзі выходзілі два шырокія промні: адзін – чырвоны, другі – бледны. (...) Праз некаторы час Езус мне сказаў: «Напішы абраз, які ты бачыш, і зрабі надпіс: "Езус, спадзяюся на Цябе". (...) Я абяцаю, што тая душа, якая будзе ўшаноўваць гэты абраз, не загіне. Абяцаю ёй таксама ўжо тут, на зямлі, перамогу над ворагамі, а асабліва ў смяротную гадзіну. Я сам буду ахоўваць яе, як сваю славу»" (Дз. 47–48).

Абраз Божай міласэрнасці з'явіўся на свет па эскізе сястры ў 1934 годзе ў майстэрні віленскага мастака Яўгена Казіміроўскага. У 1935 годзе ён упершыню быў паказаны вернікам падчас першага тыдня Вялікадня ў Вільні ў Вострай Браме.

З той пары па нататках манахіні было напісана нямала іншых версій Езуса Міласэрнага, сярод якіх ёсць і "няправільныя" абразы. Часцей за ўсё памылкі датычаць адсутнасці надпісу ўнізу выявы Хрыста або наяўнасці дамаляванага сэрца ці кароны. Гэтыя элементы падкрэсліваюць, што промні выходзяць менавіта з сэрца, а Езус – гэта Цар Міласэрнасці.

Сярод вядомых копій найбольшую папулярнасць атрымаў вобраз, створаны ў 1944 годзе Адольфам Гылей для кракаўскага санктуарыя Божай міласэрнасці. Гэты абраз знаходзіцца ў капліцы святога Юзафа, якая размяшчаецца на тэрыторыі санктуарыя. Менавіта з ім звязана выкананне слоў Езуса: "Я хачу, каб гэты абраз спачатку быў ушанаваны ў вашай капліцы, а потым – ва ўсім свеце" (Дз. 47), хоць і з'явіўся ён пазней. Сёння рэпрадукцыі гэтага абраза можна сустрэць на ўсіх кантынентах свету.

Што ж да абраза, напісанага Казіміроўскім... Аказваецца, на працягу трыццаці гадоў (1956–1986 гг.) па прычыне ганенняў на Касцёл ён знаходзіўся ў Беларусі. У парафію ў Новую Руду яго прывёз ксёндз Юзаф Грасевіч, які быў прызначаны туды пробашчам. І толькі ў 1986 годзе абраз вярнуўся ў Вільню. Пазней ён быў перанесены ў касцёл Святой Тройцы, дзе ўзнік першы ў Літве санктуарый Божай міласэрнасці. Там ён і знаходзіцца да сённяшняга дня.

## 2. Свята Божай міласэрнасці

Устанавіць гэтае свята загадаў сам Езус. У бачанні да сястры Фаустыны Ён прамовіў: "Я жадаю, каб першая нядзеля пасля Вялікадня была святам Міласэрнасці" (Дз. 299). "Я жадаю, каб свята міласэрнасці было ратаваннем і прытулкам для ўсіх душ, а асабліва для няшчасных грэшнікаў. У гэты дзень адкрыты глыбіні Маёй міласэрнасці" (Дз. 699).

У 1985 годзе кардынал Францішак Махарскі ўвёў свята ў Кракаўскай архідыяцэзіі. Затым тое ж у сваіх дыяцэзіях зрабілі некаторыя польскія біскупы. У 1995 годзе Папа Рымскі Ян Павел II афіцыйна ўвёў свята ў літургічны каляндар Польшчы. А ў дзень кананізацыі сястры Фаустыны – 30 красавіка 2000 года – абвясціў Нядзелю Божай міласэрнасці святам Паўсюднага Касцёла, якое па традыцыі адзначаецца ў апошні дзень Актавы Вялікадня.

Згодна з воляй Езуса, у свята павінна адбывацца публічнае ўшанаванне абраза Божай міласэрнасці, з амбон мусяць гучаць казанні аб міласэрнасці. У гэты дзень у кожнага ёсць магчымасць атрымаць поўны адпуст і пазбавіцца ад пакаранняў. Неабходна адбыць добрую споведзь (без прыхільнасці нават да найменшага граху) і прыняць Святую Камунію. Сакраманты павінны здзяйсняцца ў духу пабожнасці, звязаным з культам Божай міласэрнасці: гэта значыць, у даверы Госпаду і дзейснай любові да бліжняга. Падрыхтоўкай да свята павінна быць чытанне Вяночка да Божай міласэрнасці на працягу 9 дзён, пачынаючы з Вялікай Пятніцы.

## 3. Вяночак да Божай міласэрнасці

Гэтую малітву Хрыстос даў сястры Фаустыне 13–14 верасня 1935 года ў Вільні. У манахіні было бачанне анёла, які сышоў на зямлю, каб пакараць людзей за іх грахі. Яна стала прасіць анёла затрымацца, але, калі ўстала перад веліччу Святой Тройцы, не змагла паўтарыць сваёй просьбы. У той жа момант сястра пранікласся сілай ласкі Езуса і пачала маліцца словамі, якія пачула ў душы. Пазней яна напісала: "Так молячыся, я ўбачыла бяссілле Анёла, які не мог здзейсніць справядлівае, належнае за грахі, пакаранне" (Дз. 475).

На наступны дзень Хрыстос паўтарыў малітву, якую мы зараз называем Вяночкам да Божай міласэрнасці. "Спачатку ты адзін раз прачытаеш «Ойча наш», «Вітай, Марыя» і «Веру ў Бога», потым пры чытанні «Ойча наш» на вялікіх пацерках ты будзеш прамаўляць такія словы: «Ойча Спрадвечны, ахвярую Табе Цела і Кроў, Душу і Боскасць наймілейшага Сына Твайго і Пана нашага, Езуса Хрыста, каб перапрасіць за грахі нашыя і ўсяго свету»; на пацерках «Вітай, Марыя» ты будзеш прамаўляць такія словы: «Дзеля Яго балеснай мукі будзь міласэрны да нас і да ўсяго свету». У канцы ты трохразова прамовіш: «Святы Божа, Святы Моцны, Святы Несмяротны, змілуйся над намі і над усім светам»" (Дз. 476).

Малітва накіравана да Бога Айца, якому мы ахвяруем Яго ўмілаванага Сына ў адкупленне за грахі, а дзеля Яго пакуты выпрошваем міласці для нас і ўсяго свету. Гаворачы "нас" мы маем на ўвазе таго, хто моліцца, і ўсіх, за каго асоба просіць. А "увесь свет" – гэта людзі, якія жывуць у свеце, і душы, якія знаходзяцца ў чысцы. Таму, адгаворваючы Вяночак да Божай міласэрнасці, мы адначасова здзяйсняем справу міласэрнасці ў адносінах да бліжніх, што з'яўляецца ўмовай для атрымання міласэрнасці ад Бога.

Той, хто са спадзяваннем будзе маліцца Вяночкам да Божай міласэрнасці, атрымае ад Езуса ўсё, што папросіць (калі гэта не супярэчыць Божай волі). Асаблівыя абяцанні звязаны з ласкай шчаслівай і спакойнай смерці. Дарэчы, гэтую міласць можа атрымаць і чалавек, які памірае, пры ўмове, што хтосьці будзе маліцца за яго Вяночкам. Хто хоць аднойчы са спадзяваннем адгаворыць гэтую малітву, атрымае ласку пакаяння і прабачэння грахоў у гадзіну свайго адыходу.

Важна! Любыя дапаўненні ці выкрэсліванні слоў з Вяночка да Божай міласэрнасці скажаюць сэнс мальбы, і ў выніку чытаецца не тая малітва, якую прадыктаваў Хрыстос.

## 4. Гадзіна міласэрнасці

У кастрычніку 1937 года ў Кракаве Езус перадаў сястры Фаустыне яшчэ адну форму шанавання Божай міласэрнасці – Гадзіну міласэрнасці. Паўтарыў аб гэтым праз некалькі месяцаў, у лютым 1938 года.

"У тры гадзіны дня малі аб Маёй міласэрнасці, асабліва для грэшнікаў, і хоць бы на кароткі час паглыбляйся ў Маю пакуту, у прыватнасці ў Маю адзіноту ў гадзіну смерці. Гэта час вялікай міласэрнасці да ўсяго свету" (Дз. 1320).

Трэба разумець, што маецца на ўвазе не гадзіна (60 хвілін), а момант смерці Езуса на крыжы – 15.00. Няма канкрэтнай формулы малітвы ў гэты час. Гэта неабавязкова павінен быць Вяночак да Божай міласэрнасці. Можна здзяйсняць Крыжовы шлях, адараваць Найсвяцейшы Сакрамант. Калі ў гэтым перашкаджаюць абавязкі, хаця б на кароткае імгненне неабходна паглыбіцца ў малітву, разважаючы аб таямніцы Божай міласэрнасці, якая найбольш поўна была абвешчана ў момант пакут і смерці Збаўцы.

Малітва ў Гадзіну міласэрнасці з'яўляецца асобнай формай шанавання Божай Міласэрнасці. З ёю Езус звязаў асаблівыя абяцанні. "У гэтую гадзіну Я ні ў чым не адмоўлю душы, якая будзе прасіць Мяне дзеля Маёй Пакуты" (Дз. 1320).

***Пра апошнюю форму культу – распаўсюджванне Божай Міласэрнасці – чытайце ў наступным нумары "Слова Жыцця".***

***Ангеліна Пакачайла***

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*Адкрыццё аблічча Бога дае новае жыццё. Паколькі гэта Айцец, закаханы ў чалавека, які ніколі не замучваецца пачынаць з намі ад пачатку, каб аднавіць нас. Аднак Ён не абяцае магічнага перамянення, Ён не ўжывае чарадзейскай палачкі. Ён любіць змяняць нашае жыццё знутры, з цярплівасцю і любоўю; просіць увайсці ў нашае жыццё далікатна, як дождж, што сыходзіць на зямлю, каб прынесці плады. І ўвесь час чакае нас і пазірае на нас з пяшчотай. Кожную раніцу, прачынаючыся, мы можам сказаць: "Сёння Пан распраменьвае сваё аблічча нада мной".*

*"Анёл Панскі" са Святым Айцом, 01.01.2016*

### *Кс. бп Юзаф Станеўскі*



*З хвалой Богу на вышынях звязаны супакой на зямлі і паміж людзьмі. Там, дзе не аддаецца хвала Богу, дзе пра Яго забываюць або супрацiўляюцца Яму, там няма і супакою. Калі зневажаецца дадзеная Богам годнасць чалавека, ён перастае быць вобразам Бога, які мы павінны шанаваць у чалавеку слабым, адзінокім, бедным. Але калі святло Бога заяснее над чалавекам і ў чалавеку, то яго годнасць становіцца непарушнай.*

*Фрагмент гамілії падчас Імшы пастэркі ў лідскай парафіі Узвышэння Святога Крыжа*

### *Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*



*Бог прамаўляе да нас мовай любові. З любові Бог стварыў свет. Вянцом жа стварэння стаў чалавек. Менавіта таму ён з'яўляецца асабліва "ўзлюбленай" часткай Божага тварэння. Нават калі чалавек зграшыў і гэтым самым адвярнуўся ад Бога, то Ён не пакінуў яго аднаго. Бог пасылаў сваіх прарокаў, каб кіравалі Выбраным народам. Вывеў яго з егіпецкай няволі. А калі прыйшла паўната часу, то паслаў свайго Сына, каб збавіць чалавека. З любові да чалавека Езус аддаў сваё жыццё на крыжы.*

*Аднак, як паказвае жыццё, чалавек можа пагарджаць Божай любоўю і заставацца глухім на яе мову. Сын Божы прыйшоў да сваіх, але свае Яго не прынялі. Так было, калі Ён нарадзіўся ў Бэтлееме, так ёсць і сёння. Але тыя, хто Яго прымае, маюць моц перамянення ў дзяцей Божых, удзелам якіх ёсць збаўленне.*

*Фрагмент гамілії на II Нядзелю пасля Нараджэння Пана*




# Любіць Бога без усялякіх чаканняў



Сёння сваю гісторыю распавядае айцец Віталій Слука з ордэна Піяраў.

### Сярод натоўпу вернікаў

Айцец Віталій нарадзіўся ў Лідзе ў сям'і католікаў. Быў малодшым сярод траіх дзяцей. Ахрышчаны ў Ліпнішках.

*"Першы сакрамант мне ўдзялялі капуцыны. Я ў гэтым таксама бачу знак: чаму маё пакліканне – манаскі ордэн".*

Ва ўзросце 12 гадоў хлопец прыступіў да Першай святой Камуніі.

*"У касцёл я спярша хадзіў зрэдку. Мяне брала з сабой мама. Заўсёды думаў: навошта я там патрэбны? Але аднойчы мы паехалі ў касцёл у Нецеч. Пачалася св. Імша. Нічога незвычайнага аж да моманту чытання Евангелля. Я не ўмеў і ніколі не рабіў крыжыкаў на ілбе, вуснах і сэрцы. Гэта заўважыў ксёндз, які цэлебраваў св. Імшу. І, гледзячы на мяне, пачаў тлумачыць, навошта і як гэта рабіць. Што я тады перажыў... Сярод натоўпу вернікаў мяне заўважыў сам святар! Праводжу паралель да фрагмента з Евангелля, дзе Закхей залез на дрэва, каб убачыць Езуса, і ўзрадаваўся, калі Хрыстос заўважыў яго. Думаю, нешта падобнае адбылося і ў маім маленькім сэрцы. Езус увайшоў у мой дом, як да Закхея, і там застаўся".*

Пасля гэтага выпадку хлопчык запісаўся на ўрокі рэлігіі і пачаў прыслужваць пры алтары міністрантам. У старэйшых класах пачаў задумвацца над сваім пакліканнем.

*"Я вучыўся на фізмаце, але мне вельмі хацелася звязаць сваё жыццё з геаграфіяй. Быць можа, нават стаць настаўнікам...".*

У 17-гадовым узросце хлопец прыняў сакрамант Канфірмацыі.

*"Я шмат думаў, якое бежмаванае імя абраць. І мой выбар паў на імя апостала Яна. Тое заданне, якое я выбраў разам з імем гэтага святога, застаецца са мной і сёння. Евангелле называе Яна любімым вучнем Езуса. Вось і маё заданне ў жыцці – зрабіць для Хрыста нешта такое, каб стаць для яго такім любімым вучнем".*

### Цвёрды намер паступаць у семінарыю

Юнак пачуў, што хоча служыць далей. Ён паступова разумеў, з кім прагне пражыць усё сваё жыццё. І вырашыў паступаць у семінарыю.

*"Я сімпатызаваў айцам піярам. Яны працавалі ў нашай парафіі ў Лідзе. Айцы заўсёды былі з дзецьмі, а значыцца, і са мной. Я адчуваў, што ў іх быў нейкі своеасаблівы падыход да маладых людзей. А яшчэ ў мяне была мара мець бараду (смяецца – заўв.аўт.)... як у айца Эдварда Крысцяка, якога я вельмі любіў. Ён быў для мяне першым прыкладам адданай службы Богу і людзям".*

Хлопец прапускаў праз сваю свядомасць, што быць піярам – значыць быць манахам, святаром і настаўнікам. Гэта ўзмацняла жаданне прысвяціць сябе Богу і працаваць з дзецьмі і моладдзю. Юнак вырашыў ісці ў семінарыю.

*"Мама была рада, хоць і было відаць, што перажывае і хвалюецца. Тата, хутчэй за ўсё, даведаўся ад мамы. Спачатку трымаўся "роўна", але калі мне прыйшоў час ад'язджаць, расплакаўся. Вось шчыра, я гэта часта ўспамінаю. Разумею, што тата моцна любіць мяне і перажывае. А яшчэ ў мяне ёсць дзве старэйшыя сястры, якія з'яўляюцца для мяне вялікай падтрымкай".*

### Моцная малітва бацькоў

У 2001 годзе хлопец паступіў у пастулят у Кракаў. Праз месяц – у навіцыят у Жэшаў. Пазней была семінарыя: два гады вывучэння філасофіі і чатыры гады тэалогіі.

*"У навіцыяце нас было 13 чалавек. Нашмат, як па мне, лепшых, чым я, гатовых прысвяціць сябе Богу. Засталося толькі дваіх. Шмат разоў я задаваў сабе пытанне: чаму Бог пакінуў мяне? У семінарыі шмат разважаў: а раптам гэта не маё, раптам – сям'я ці што іншае... Але заўсёды было пачуццё, што, калі пакіну гэтую дарогу, буду нешчаслівы".*

8 сакавіка 2008 года ў Шчучыне былі складзены вечныя абяцанні. Святарскія пасвячэнні адбыліся ў Лідзе ў касцёле піяраў 16 мая 2009 года.

*"Вялікая апора для ўсіх святароў – гэта бацькі. Я гэта зразумеў яшчэ ў семінарыі. Калі прыязджаў дадому, бацькі казалі, што кожны дзень моляцца за мяне. Тады я зразумеў, чаму крызісныя сітуацыі ў жыцці вырашаюцца так хутка: гэтаму садзейнічае малітва таты і мамы, самая моцная малітва".*

Першыя два гады айцец Віталій служыў як святар у Польшчы ў горадзе Еленя Гура. Апошнія чатыры гады працуе ў Шчучыне. Займаецца з моладдзю і міністрантамі.

**"Сёння я не ўяўляю, што гэтае жыццё можна пражыць інакш, без Бога. Вядома, здараюцца не толькі радасныя моманты. Але калі давяраеш Богу, Ён заўсёды цябе падтрымае. І калі ў пакліканні для цябе сапраўды важны Бог, то нават цяжкасці будуць прыносіць табе радасць. Галоўнае пра гэта не забыцца, што часамі здараецца і ў маім жыцці. Проста трэба жыць з Богам, быць натуральным, упусціўшы Яго ў сваё жыццё. Проста верыць і любіць, без усялякіх чаканняў, як гэта рабіла святая заступніца майго манаскага жыцця Тэрэза ад Дзіцятка Езус. Веру, што ўсё маё жыццё ў руках Бога. Усё ў маім жыцці залежыць ад Яго".**

***Ангеліна Пакачайла***




◆ *У Глушыцы пад Валбжыхам скончыўся "Жывы Бэтлеем". Гэта была самая вялікая жывая батлейка ў Польшчы. Яе самастойна падрыхтавалі мясцовыя жыхары і самі ж у ёй выступілі. На плошчы больш за гектар, вакол свайго касцёла, яны паставілі 21 хатку і некалькі загонаў для жывёлы. Усяго ў "Бэтлееме" выступіла звыш 60 чалавек, яшчэ столькі ж дапамагала ў падрыхтоўцы. Арганізатары падлічылі, што толькі за тры першыя дні "Жывы Бэтлеем" наведала каля 8 тысяч чалавек.*

◆ *"Будзем радавацца ў дзень нашага збаўлення" – гэтыя словы з гаміліі папы Льва Вялікага Святы Айцец пажадаў размясціць на традыцыйным памятным абразку, які быў падрыхтаваны Ватыканскім выдавецтвам з нагоды Божага Нараджэння. Яго ўпрыгожвае рэпрадукцыя гравюры "Адарацыя Пана Езуса анёламі", выкананая італьянскім мастаком Карла Марата ў тэхніцы аквафортэ. Пад подпісам Пантыфіка размешчаны лагатып Юбілейнага года міласэрнасці.*

◆ *З 28 снежня па 1 студзеня ў Валенсіі адбывалася 38-я Еўрапейская сустрэча моладзі – "Пілігрымка даверу праз зямлю", арганізаваная Экуменічнай супольнасцю Тэзэ. Сёлета яе дэвізам былі словы: "Мужнасць міласэрнасці". У Валенсію прыбыло каля 30 тысяч маладых жыхароў еўрапейскага кантынента. Ужо традыцыйна самай шматлікай этнічнай групай сталі палякі – 3 тысячы ўдзельнікаў, на другім месцы аказаліся ўкраінцы – каля 2 тысяч, затым немцы і французы – па паўтары тысячы, потым італьянцы – больш за тысячу чалавек. Еўрапейскія сустрэчы моладзі адбываюцца з 1978 года на мяжы старога і новага года, кожны раз у новым горадзе кантынента. Да гэтага часу маладыя хрысціяне сустракаліся ў 23 гарадах.*

◆ *Папе Францішку прысуджана Міжнародная прэмія імя Карла Вялікага. Кіраўнік Залы друку Апостальскай Сталіцы кс. Фэдэрыка Ламбардзі заўважыў, што Святы Айцец раней ніколі не прымаў прэмій і ўзнагарод, прызначаных яго асобе. Такім чынам, гаворка ідзе пра выключную падзею. Пантыфік імкнецца яшчэ раз сказаць аб міры, супольна маліцца аб ім, заклікаць Еўропу да дзейнасці на карысць міру, як унутры сваіх межаў, так і ва ўсім свеце. Значным аспектам сёлетняй Міжнароднай прэміі імя Карла Вялікага з'яўляецца той факт, што яна была ўпершыню прысуджана асобе, якая не паходзіць з Еўропы.*

◆ *Каталікам у Нарвегіі неабходна большая катэдра. Старая катэдра св. Олафа ў Тронхейме аказалася замалой для каталіцкай супольнасці, якая там хутка развіваецца. Калі катэдру будавалі ў 1973 г., супольнасць налічвала 500 чалавек, а сёння іх больш за 6 тысяч. Месяц таму было распачата будаўніцтва новай катэдры, якой будзе карыстацца каталіцкая супольнасць, што складаецца са ста нацыянальнасцей. Св. Імшы ў новай катэдры будуць адпраўляцца на 8 мовах, а сядзячых месцаў будзе больш за 500. Святыню адчыняць вясной 2017 года.*

*be.radiovaticana.va; niedziela.pl; pch24.pl*

***Ангеліна Пакачайла***




# НОВАЯ РУБРЫКА!
## Езу, Ты гэтым займіся!

Калі да айца Піо прыходзілі тлумы, ён казаў:
– Ідзіце лепш да кс. Далінда! Гэты містык пакінуў малітву, якую яму прадыктаваў сам Езус.
Табе здаецца, што сітуацыя пагаршаецца? Заплюшчы вочы і скажы: "Езу, Ты гэтым займіся".

***Прадстаўляем Вам, дарагія Чытачы, новую рубрыку пад назвай "Езу, Ты гэтым займіся!"***

*На старонках нашай газеты мы будзем змяшчаць малітвы на розныя нагоды і ў розных патрэбах. Вы нават не заўсёды знойдзеце іх у сваіх малітоўніках, але яны спатрэбяцца Вам у жыцці. Таму дасылайце на адрас рэдакцыі просьбы і пытанні наконт Вашых сітуацый і патрэб, а мы пастараемся знайсці малітву, якая дапаможа Вам у жыцці.*

***Малітва, якую мы змясцілі сёння, – для ўсіх і на кожны дзень жыцця.***

## МАЛІТВА НА КОЖНЫ ДЗЕНЬ

**Пане, дазволь мне са спакойнай душой спаткаць усё, што мне нясе кожны дзень. Дапамажы мне паддацца Тваёй святой волі. У кожную хвіліну дня вучы мяне і падтрымлівай ва ўсім. Аб'яўляй сваю волю адносна мяне і людзей, што навокал. І якія б я не атрымаў сёння весткі, зрабі так, каб я прымаў іх са спакоем і моцным перакананнем, што ва ўсім адбываецца Твая святая воля. Кіруй усімі маімі думкамі, словамі, учынкамі і пачуццямі. Ва ўсіх непрадбачаных выпадках дазволь мне памятаць, што ўсё паходзіць ад Цябе і што Ты Валадар усяго. Навучы мяне разумець людзей і з прастатой паступаць з кожным членам маёй супольнасці, нікога не засмучаючы і не ўносячы ў яго душу нявызначанасці.**

**Пане, дадай мне сіл, каб пераносіць цяжкасці кожнага дня і прымаць тое, што здарыцца. Ты сам кіруй маёй воляй, прыцягваючы яе да сябе, і вучы мяне кожны дзень, як верыць у Цябе, як цярпець і як прабачаць з Тваёй любоўю ў маім сэрцы. Пане, веру, што я заўсёды Твой, і дзякую Табе за гэтую веру кожны дзень.**




***Прачытала ў газеце словы: "Рараты, як і ўвесь Адвэнт, прасякнуты сімвалам святла". Яны і прымусілі мяне ўзяцца за пяро, падзяліцца пачуццямі, якія ўзніклі ў мяне...***

*Адвэнт – гэта чаканне радасці, святла, цуду. І ў нашым касцёле святых апосталаў Пятра і Паўла, што ў Іўі, гэтыя цуды адбываюцца, дзякуючы ксяндзу Яну, ксяндзу Віталію, сястры Ірэне.*

*6 снежня пасля дзіцячай Імшы з'яўляецца Святы Мікалай. Колькі ж радасці і захаплення ў дзяцей! Яны гатовы і мяшок паднесці, і за рукі яго весці. Старэнькі ж вельмі, стаміўся.*

*Ні ў школу, ні ў садок Дзед Мароз яшчэ не прыходзіў. Святы Мікалай першы прыйшоў у касцёл з падарункамі. І малая ўнучка шчыра верыць яму, усім хваліцца прэзентам і цягне складзеныя ручкі да абраза.*

*А раратнія Імшы... Колькі святла і радасці! Тварыкі дзяцей свецяцца шчасцем. Ім і спаць не хочацца. Яны з радасцю бягуць у касцёл, запальваюць свечкі і спяваюць. Гляджу на іх, а на вачах слёзы радасці і смутку. Смутку, бо ў маё дзяцінства нічога гэтага не было. А радасці, бо словы Хрыста не мінуліся: адрадзілася вера. Ды з якой сілай! Можа, так Бог майму пакаленню вяртае дзяцінства з Богам?*

*Вечарам дома ўсёй сям'і занятак. Трэба яселькі для Дзіцятка Езуса змайстраваць, сабраць і падзяліцца цацкамі з іншымі дзеткамі, учынкі добрыя зрабіць... Вось яно – сапраўднае чаканне, падрыхтоўка да свята.*

*Калі сустракаю ксяндза Яна Гавецкага, думаю, якое гэта вялікае пакліканне – несці Веру, Надзею, Любоў у кожную сям'ю, быць і ў радасці, і ў смутку са сваімі парафіянамі. Тая любоў да нашых дзяцей, унукаў, якую ксёндз Ян дорыць ім, не гіне. Колькі іўеўскіх юнакоў і дзяўчат раз'ехаліся па ўсёй краіне з моцнай верай у Хрыста! Колькі маладых сем'яў з удзячнасцю ўспамінаюць яго! А мы, старэйшае пакаленне, дзякуем Пану Богу за ксяндзоў, манаскіх сясцёр і ўсіх, хто працуе ў іўеўскім касцёле.*

***У канцы хачу ад шчырага сэрца выказаць падзяку святарам нашага касцёла ксяндзу пробашчу Яну, ксяндзу Віталію, сястры Ірэне, спадарыні Жане. Падзяку за любоў, якой яны дзеляцца з нашымі дзецьмі, з намі. За іх адданасць Богу і парафіянам, за дапамогу ў выхаванні дзяцей, моладзі, за добрыя словы і падтрымку.***

***Шматлікіх Божых ласкаў Вам. Шчасці Божа!***

*З удзячнасцю Крысціна Лапата*
*з парафіі святых апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

---

***Святар з сонейкам і нязгаснай любоўю ў сэрцы, з крынічнай чысцінёй у вачах, якія выпраменьваюць дабрыню і святло, што знішчае цемру і прасвятляе душу чалавека. Менавіта такім святаром з'яўляецца пробашч навагрудскага касцёла святога арханёла Міхала Юрый Жэгарын.***

*Здаецца, няшмат прайшло часу з сакавіка мінулага года, калі ксёндз Юрый распачаў сваё святарскае служэнне на навагрудскай зямлі. Але духоўнае зерне, пасеянае з вялікай любоўю да Бога і чалавека, ужо дало вялікі плён.*

*Будучы непахісным носьбітам Хрыстовай веры і праўды, ксёндз Юрый з першых дзён служэння ў нашай парафіі адзначыў: мы як хрысціяне павінны перастаць быць абыякавымі да людзей, што нас акружаюць, да бездухоўнасці, якая, на жаль, усё больш і больш распаўсюджваецца ў грамадстве. "Быць вернікам, – сцвярджае ён, – гэта не толькі штодзённа маліцца і хадзіць у святыню, але і любіць бліжняга, не асуджаць, дапамагаць, ахвяраваць сябе дзеля іншага".*

*Па чацвяргах ксёндз Юрый праводзіць біблейскія сустрэчы, на якія збіраецца нямала парафіян. Спатканні ладзяцца з мэтай, каб вернікі разумелі Святое Пісанне і добра ўсведамлялі хрысціянскія ісціны. Нашыя сэрцы імкнуцца прыняць словы Хрыста: "Запаведзь новую даю вам, каб вы любілі адзін аднаго, як Я ўзлюбіў вас, каб і вы адзін аднаго любілі". "Змяняюся ў лепшы бок", "хочацца быць міласэрным, спагадлівым", "імкнуся рабіць дабро іншым", "пачынаю сапраўды разумець сэнс вучэння Хрыста", "з нецярпеннем чакаю чацвярга", – выказваюцца ўдзельнікі біблейскіх сустрэч.*

*Вялікім аўтарытэтам святар карыстаецца і сярод маладых людзей. Моладзевыя сустрэчы адбываюцца ў нядзелю вечарам. На іх юнакі і дзяўчаты не толькі ўмацоўваюць сваю веру ў Хрыста і спазнаюць Яго вучэнне, але і абмяркоўваюць з ксяндзом Юрыем, як можна выратавацца ад злых спакус сучаснага свету, звязаных з алкагалізмам, наркаманіяй, сексуальнай разбэшчанасцю, парнаграфіяй, акультызмам, сатанізмам, ненарматыўнай лексікай, камп'ютарнай залежнасцю. "Прыходзім на моладзевыя сустрэчы, бо яны цікавыя, змястоўныя і патрэбныя. А слухаючы ксяндза Юрыя, проста нельга не змяніцца і не стаць лепшымі", – сцвярджаюць юнакі і дзяўчаты.*

*На вячэрніх святых Імшах ксёндз Юрый прамаўляе казанні па-беларуску. Слова, прамоўленае на зразумелай мове, дае багатыя ўсходы: куды больш людзей пачало прыходзіць на багаслужэнні. Шмат дзяцей і моладзі збіраецца ў касцёле на нядзельнай беларускай Імшы, пасля якой ксёндз Юрый кожнаму дзіцяці, юнаку і дзяўчыне ўдзяляе Божае бласлаўленне. Людскія сэрцы яснеюць, душы напаўняюцца радасцю.*

***Услед за пробашчам хочацца верыць у памнажэнне веры і духоўнае прасвятленне жывога Касцёла ў Навагрудку. Мы вельмі моцна любім свайго пробашча і шчыра верым, што яркае сонейка, якое свеціцца ў гарачым сэрцы ахвярнага ксяндза, будзе гэтак жа нястомна рассыпаць прамяні выратавальнага святла па навагрудскай зямлі.***

*Таўлуй Галіна Эдуардаўна – выкладчыца беларускай мовы і літаратуры Навагрудскага дзяржаўнага сельскагаспадарчага прафесійнага ліцэя, кіраўнік ліцэйскага духоўна-маральнага клуба "Промні надзеі"*




*Хвала Хрысту!*

*Вітаю чытачоў моладзевай рубрыкі "На скрыжаванні". У сённяшнім нумары мы з Вамі паразважаем пра рух па сбліжэнні і комплексы ў камунікацыі. Даведаемся, на якім фундаменце грунтуюцца чалавечыя адносіны, што агульнага ва ўсіх людзей і навошта неабходна адзінства хрысціян.*

*Наперад з Богам!*



*Ангеліна Пакачайла*

# Адкрыцца на дыялог з бліжнім

***ВЫКАЗВАННЕ З БІБЛІІ: "Каб усе былі адно, як Ты, Ойча, ува Мне, і Я ў Табе, каб і яны былі ў Нас, каб паверыў свет, што Ты паслаў Мяне" (Ян 17, 21)***

Па Бібліі ідэалам адзінства паміж людзьмі з'яўляецца непадзельнасць паміж Сынам і Айцом. Вернікі належаць да аднаго "цела" Хрыста, таму пакліканы існаваць ў любові і ціхмянасці адзін да аднаго.

***ІНТЭНЦЫЯ МЕСЯЦА: каб шчыры дыялог паміж людзьмі, якія вызнаюць розныя рэлігіі, прыносіў плён міру і справядлівасці***

Людзі шматлікіх веравызнанняў часта забываюца пра чужое "я" і парушаюць межы згоды і спакою іншых. Незаўважна такая сітуацыя саспела і ў сучасным свеце. Папа Францішак заклікае Паўсюдны Касцёл скіраваць свае малітвы ў інтэнцыі міру.

***ПРАДМЕТ РАЗВАЖАННЯЎ МЕСЯЦА: экуменізм***

Паняцце "экуменізм" паходзіць з грэчаскай мовы і азначае "заселены сусвет". Яго сэнс палягае на паглыбленні ўзаемаразумення з другімі канфесіямі, павазе, любові і адкрытасці на другога чалавека. Экуменізм – гэта не кампраміс, а, хутчэй, дыялог, рух па збліжэнні. Варта цікавіцца, аб чым думае другі чалавек, суперажываць, быць памяркоўным. Бо мэта ў кожнага з нас адна і тая ж – дасягнуць вечнага жыцця і з'яднацца з Богам.

***МЭТА МЕСЯЦА: адкрыцца на дыялог з бліжнім***

Кожны чалавек на зямлі разам з астатнімі складае адну вялікую сям'ю. Гэта фундамент, на якім павінны грунтавацца чалавечыя адносіны. Здаецца, няма ніякіх падстаў, каб зыкрывацца на брата, але часта зносіны абмяжоўваюцца. На гэта ўплываюць комплексы, навязаныя стэрэатыпы. Прааналізуем наша жыццё ў аспектах камунікацыі і зробім з гэтага слушныя высновы.

***СПРАВА МЕСЯЦА: аб'яднацца для добрай справы***

Спярша трэба вызначыцца са справай. Хутчэй і лягчэй за ўсё паставіць сабе пытанне: хто зараз патрабуе дапамогі? Знайшоўшы адказ, выбраць паплечніка (будзе карысным скантактавацца з малазнаёмым чалавекам). Прапанаваць яму прыняць удзел у добрай справе і разам "накідаць" план для рэалізацыі задумкі.

Падводзячы вынікі, можна заўважыць, што міласэрнасць зыходзіць з душы. А яна ёсць у кожнага, незалежна ад узросту, полу, роду дзейнасці ці веравызнання.

***ПЕСНЯ МЕСЯЦА: "Мы адно", гурт "Евангелле"***

Выканаўцы спяваюць аб тым, што "Айцец адзін", і "мы адно". Адна на ўсіх вера, надзея і любоў. "Злучае нас Твой Дух Святы" і нішто ўжо не разлучыць, "агонь або вада, ні меч і ні бяда".

***КНІГА МЕСЯЦА: "Уладзімір Салаўёў аб значэнні Прымата апостала Пятра для адзінства хрысціянскай Царквы", а. Аляксандр Каліноўскі***




Каб абараніць чалавецтва ад маральнага рэлятывізму, каб сведчанне Евангелля мела сілу, неабходна адзінства хрысціян. У пошуку непаразуменняў у пытанні еднасці паміж праваслаўнай і каталіцкай Цэрквамі аўтар звяртаецца да творчасці вялікага рускага філосафа і багаслова Уладзіміра Салаўёва.

У 2011 годзе а. Аляксандр Каліноўскі абараніў доктарскую дысертацыю па дагматычнай тэалогіі аб адзінстве Царквы. Нарадзіўся і вырас у Беларусі. Зараз служыць у Казахстане.

***АСОБА МЕСЯЦА: святы Антоній***

Святы Антоній паходзіць з мясцовасці Кома (Егіпет) з заможнай і рэлігійнай сям'і. Маючы 20 гадоў пачуў у казанні словы, прамоўленыя Хрыстом: "Калі хочаш быць дасканалым, ідзі, прадай маёмасць сваю і раздай убогім, і будзеш мець скарб у нябёсах; пасля прыходзь і ідзі за Мною!" (Мц 19, 21). Гэтае ўказанне ён зразумеў даслоўна. Паколькі бацькі ўжо памерлі, ён прадаў сваю маёмасць і адправіўся ў пустыню. Там практыкаваў малітву, пакаянне і фізічную працу.

Праз некаторы час вакол яго пачалі збірацца жадаючыя весці падобнае жыццё. Ён стаў для іх настаўнікам. Так узніклі першыя зборы пустэльнікаў, якіх назвалі ерэмітамі. Св. Антоній мае таксама вялікія заслугі ў абароне чысціні веры, калі абвяшчалася фальшывая навука, якая супярэчыла боству Хрыста.

Святому прыпісваецца аўтарства 7 лістоў і Статута. Яны перадаюць парады і падказкі для тых, хто хоча практыкаваць пустэльнае жыццё.

Памёр ва ўзросце 105 гадоў 17 студзеня 356 года. Святога Антонія лічаць заступнікам, які абараняе ад чумы і пажару. З'яўляецца першым заступнікам псіхічна хворых, а таксама жывёл, асабліва свіней. Літургічны ўспамін у каталіцкім Касцёле – 17 студзеня.

***Да якіх святых звяртацца з асаблівай просьбай аб заступніцтве ў студзені?***

*Св. Рыгор (2 студзеня), св. Ян (5 студзеня), св. Люцыян (7 студзеня), св. Севярын (8 студзеня), св. Павел (15 студзеня), св. Антоній (17 студзеня), св. Агнешка (21 студзеня), св. Францішак (24 студзеня), св. Томас (28 студзеня), св. Здзіслаў (29 студзеня), св. Людвіка (31 студзеня).*

*Усе заўвагі і пажаданні дасылаць на паштовую скрыню рэдакцыі або на электронны адрас аўтара рубрыкі pokachailo.lina@gmail.com.*




# Найстарэйшы святар Гродзенскай дыяцэзіі адзначыў 90-годдзе

1 студзеня ксёндз прэлат Юзаф Трубовіч адзначыў 90-ю гадавіну свайго нараджэння. З гэтай нагоды юбіляр узначаліў урачыстую святую Імшу ў гродзенскай парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, падчас якой дзякаваў Богу за дар святарства і за ўсіх людзей, якіх Пан паставіў на яго жыццёвым шляху.

Памаліцца за юбіляра прыбылі дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, святары, кансэкраваныя асобы і вернікі горада Гродна, якім ксёндз прэлат знаёмы і вельмі блізкі.













## З КАТАЛІЦКАГА ДРУКУ

Catholic.by
Рыма-Каталіцкі Касцёл у Беларусі

### *Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч адсвяткаваў 70-гадовы юбілей*

***Урачыстая св. Імша з гэтай нагоды прайшла 2 студзеня ў мінскім архікатэдральным касцёле Імя Найсвяцейшай Панны Марыі.***

*На Эўхарыстыі, якую ўзначаліў юбіляр, прысутнічалі беларускія біскупы, духавенства з усіх дыяцэзій каталіцкага Касцёла ў Беларусі, родныя Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча, землякі іерарха з яго роднага Адэльска, кансэкраваныя асобы, вернікі Мінска.*

*Арцыпастыр выказаў падзяку за дар жыцця і паклікання Богу, сваім бацькам, сястры, блізкім, святарам, якія сталі на шляху яго паклікання, духавенству, з якім працуе ў Беларусі і з якім працаваў у Расіі, кансэкраваным асобам і ўсім вернікам. "Я з вас узяты і для вас пастаўлены", – сказаў юбіляр, просячы маліцца ў знак удзячнасці за пражытыя гады і аб бласлаўленні на наступны шлях.*




### *З'явіўся памятны медаль Года міласэрнасці*

***Яго аўтарам з'яўляецца італьянская мастачка і скульптар Марыянджэла Крышоці, якая ўжо на працягу некалькіх гадоў супрацоўнічае з Ватыканам. Медаль выкананы ў трох версіях: з золата, серабра і бронзы.***

*На яго аверсе размешчана выява гербу папы Францішка і надпіс на лацінскай мове: "IUBILAEUM EXTRAORDINARIUM MISERICORDIAE 2015" (Надзвычайны юбілей міласэрнасці 2015), а таксама подпіс аўтара.*

*На рэверсным баку размешчана дэталь карціны Рэмбранта "Вяртанне блуднага сына". Цікавым фактам з'яўляецца тое, што адна рука евангельскага бацькі – мужчынская, а другая – жаночая. Гэта сімвалізуе шлях Божага прабачэння – ад Айца праз Касцёл (у лацінскай мове Касцёл – "Ecclesia" – жаночага роду). На рэверсе медаля таксама размешчаны радок з 135 псалма: "IN AETERNUM MISERICORDIA EIUS" (Твая міласэрнасць навекі).*




### *Усё больш жадаючых на "антысільвестр"*

***Штогод узрастае колькасць людзей, якія прымаюць рашэнне аб нетыповай сустрэчы Новага года. Замест гучнай забавы яны выбіраюць ноч у цішыні манастырскіх муроў.***

*"Антысільвестр", праведзены ў цішыні муроў манастырскага абацтва, – гэта магчымасць для тых, хто шукае нетыповую навагоднюю прапанову: цішыню, малітву і сузіранне. Ідэя святкавання Новага года ў адасобленасці карыстаецца ўсё большай зацікаўленасцю.*

*Манахі прадастаўляюць магчымасць удзелу ў св. Імшы апоўначы і супольным калядаванні, а таксама магчымасць сустрэчы з законнікамі. Між іншым, яны не навязваюць жорсткай праграмы.*

***Кінга Красіцкая***

## Бп. Аляксандр Кашкевіч падзяліўся аплаткай з працаўнікамі чыгункі

*У сустрэчы прынялі ўдзел працаўнікі чыгункі з усёй Гродзенскай дыяцэзіі, а таксама з Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.*

Сустрэча пачалася св. Імшой, якую ўзначаліў біскуп Аляксандр Кашкевіч. Падчас яе іерарх маліўся за ўсе сем'і дыяцэзіі, паколькі ў гэты дзень адзначалася свята Святой Сям'і: Езуса, Марыі і Юзафа.

У гаміліі а. Эдуард Пяцельчыц CSsR, душпастар працаўнікоў чыгункі Гродзенскай дыяцэзіі, казаў аб тым, якой сёння павінна быць сям'я і на якім фундаменце яна павінна ствараць сваю будучыню. Пасля гаміліі сужэнцы, прысутныя ў касцёле, аднавілі сужэнскія абяцанні.

Кс. бп Аляксандр выказаў радасць ад гэтай сустрэчы і падзякаваў тым, хто ўтварае душпастарства працаўнікоў чыгункі, за тое, што яны трываюць з Хрыстом і будуюць супольнасць, якую злучаюць агульныя інтарэсы.



## Пацыенты лідскай бальніцы атрымалі падарункі

*У перыяд свят Божага Нараджэння ў Лідскай цэнтральнай раённай бальніцы пачалася дабрачынная акцыя "Рука міласэрнасці".*

Галоўным ініцыятарам акцыі і адным з яе асноўных спонсараў разам з дырэктарам мясцовага Дома гандлю Валерыем Касяком выступіў капелан капліцы Маці Божай з Лурда пры ЦРБ кс. Юрый Бяганскі.

Падарункі атрымалі 30 дзяцей, якія сустракалі свята Божага Нараджэння на лячэнні ў аддзяленні для дзяцей-інвалідаў. Пазней сваіх уладальнікаў знайшлі і адмысловыя сертыфікаты на падарункі: неўралагічнае аддзяленне ЦРБ атрымала крэслы-каляскі для транспарціроўкі пацыентаў.



Памятныя падарункі з рук галоўнай медсястры Галіны Якімовіч і старэйшай акушэркі Алены Хартановіч атрымалі і мамы адзінаццаці немаўлят, якія нарадзіліся ў радзільні 24 і 25 снежня.

## Містэрыю на тэму Божага Нараджэння прадставілі ў Сапоцкіне

*Парафіяльная супольнасць у Сапоцкіне дзялілася радасцю падчас сёлетняга прадстаўлення, якое па традыцыі рыхтавалі дзеці і моладзь.*

Містэрыю пад назвай "Як гэта было з нараджэннем Пана Езуса" прадставілі ў мясцовым Доме культуры 27 снежня. Выканаўцы паказалі, што Езуса Хрыста можна спаткаць таксама ў штодзённым жыцці– у прыродзе, у бліжніх, у розных падзеях – і заахвоцілі, каб сучасны чалавек быў адкрыты на ўсё, што прыходзіць.

Дзеці і моладзь падчас прадстаўлення заахвоцілі ўсіх прысутных па прыкладзе пастухоў і вучоных магаў аддаць паклон Божаму Сыну, які прыйшоў у свет для кожнага з нас.



## Вігілійная сустрэча для студэнтаў прайшла ў Шчучыне

*Былыя школьнікі сабраліся ў касцёле святой Тэрэзы ад Езуса (Авільскай) 26 снежня.*

Сустрэча распачалася святой Імшой, на якой прысутныя сталіся ля алтара адным цэлым і паразважалі над тэмай выбару дабра ў жыцці.

Сямейную атмасферу, якая склалася падчас святой Імшы, падтрымала супольнае дзяленне аплаткай. У гэты вечар прагучалі добрыя і патрэбныя словы падтрымкі, шчырыя пажаданні.



## Адбылася аплаткавая сустрэча ўдзельнікаў пілігрымкі "Гродна-Рось"

*Пілігрымы сабраліся на сумеснай малітве ў гродзенскай парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі 26 снежня.*

Гэтая сустрэча ўжо стала традыцыяй для кожнага пілігрыма і для тых, хто яшчэ толькі плануе наведаць санктуарый Езуса Журботнага ў Росі.

Пачалася сустрэча святой Імшой, якую ўзначаліў кіраўнік пілігрымкі кс. Юрый Марціновіч. У гаміліі святар адзначыў, што святы Божага Нараджэння – асаблівы час, калі важна адорваць бліжняга цеплынёй і любоўю. Святар дадаў, што падчас гэтых свят людзі ўсведамляюць праўду аб тым, што Езус Хрыстус "паставіў намёт сярод нас і стаў прабываць з намі, каб і ўсе людзі маглі адчуваць сябе ў Бога, як дома".

Падчас Імшы вернікі дзякавалі Богу за чарговую сустрэчу, маліліся за ўсіх удзельнікаў пілігрымкі і тых, хто штогод дапамагае ў яе арганізацыі.



## Вернікі парафіі ў Забалаці наведалі Шпіталь сястрынскай дапамогі

*У гэтым шпіталі знаходзяцца людзі, якія не могуць абысціся без дапамогі іншых – самотныя і хворыя.*

Пробашч парафіі Найсвяцейшай Тройцы кс. Генрых Яблоньскі разам з парафіянамі і святым Мікалаем наведалі Шпіталь сястрынскай дапамогі ў Забалаці 25 снежня. Вернікі забалацкай парафіі падзяліліся аплаткамі з хворымі, а святы Мікалай падарыў ім салодкія пачастункі.

Вернікі, якія прынялі ўдзел у сустрэчы, падкрэслілі: каб дапамагаць самотным людзям, патрэбна вялікая адказнасць і міласэрнасць. Яны выказалі вялікую падзяку тым, хто штодзённа апекуецца імі ў забалацкім Шпіталі сястрынскай дапамогі.



## Дзень Міласэрнасці для сужэнцаў і сем'яў прайшоў у Гудагаі

*Да Дзвярэй Міласэрнасці, адчыненых у санктуарыі Маці Божай Шкаплернай у межах Надзвычайнага юбілейнага года міласэрнасці, вернікі прыбылі цэлымі сем'ямі.*

На пачатку ўрачыстасці ўвазе прысутных было прапанавана падрыхтаванае дзецьмі прадстаўленне аб нараджэнні Хрыста. Маленькія артысты распавялі аб Божым Сыне, які прыйшоў у свет у сям'і і яднае чалавечыя сэрцы, распальваючы іх любоўю да Бога і людзей.

Пасля адбылася святая Імша. Падчас яе прысутныя сужэнцы аднавілі сужэнскія абяцанні. На заканчэнне кожная сям'я атрымала блаславенне Найсвяцейшым Сакрамантам.



## Моладзь дзятлаўскага араторыя прадставіла калядны спектакль

*24 снежня пастэрка ў дзятлаўскай святыні распачалася ад тэатральнай мініяцюры, якую падрыхтавала старэйшая моладзь.*

Пасля адбылася святая Імша. У гаміліі сабраным вернікам у касцёле была прыбліжана таямніца Божага Аб'яўлення.

Пасля Пастэркі ўсім парафіянам быў прапанаваны спектакль, падрыхтаваны дзецьмі і моладдзю араторыя імя блаславёных мучанікаў з Познані ў Дзятлаве.



## АНОНСЫ

### КСЯНДЗА ПЯТРА БАРТАШЭВІЧА ЎЗГАДАЮЦЬ У ЖАЛУДКУ

**13 студзеня прыпадае 25-я гадавіна смерці ксяндза Пятра Барташэвіча, які апошнія гады свайго жыцця быў пробашчам парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Жалудку.**

*Святая Імша з гэтай нагоды адбудзецца ў гэты дзень у Жалудку а 10-й гадзіне. Мясцовы пробашч кс. Ян Рэйшэль разам з парафіянамі запрашаюць да супольнай малітвы ў інтэнцыі святара, які верна служыў Касцёлу Хрыста.*



### У САПОЦКІНЕ АДБУДЗЕЦЦА ДЭКАНАЛЬНЫ ПРАГЛЯД КАЛЯДАК І ПАСТАРАЛАК

**Вечар па традыцыі арганізуецца сапоцкінскай парафіяй Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і пройдзе ўжо ў 15-ы раз.**

*Да ўдзелу запрашаюцца суполкі, хоры, індывідуальныя выканаўцы. Прадставіць калядкі і пастаралкі можа кожная група, хор або саліст. Узрост удзельнікаў не абмежаваны. Выступіць можа кожны жадаючы.*

**Прагляд адбудзецца 31 студзеня ў Доме культуры. Пачатак у 18.00.**

***Аб сваім удзеле трэба праінфармаваць кс. Антонія Абухоўскага, пробашча парафіі ў Сапоцкіне, да 17 студзеня па тэлефонах: +37529-888-18-29 і 8-015-299-21-30.***

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

***Што Вы будзеце рабіць на заканчэнне старога і пачатак новага года?***




*Чарговае апытанне дазволіла кожнаму з нас шмат над чым задумацца. Час святкавання Новага года становіцца ў нашым грамадстве адным з найважнейшых элементаў жыцця. Цешыць той факт, што вялікая колькасць нашых рэспандэнтаў на заканчэнне старога і пачатак новага года прыняла ўдзел у св. Імшы.*

***Чарговыя вынікі каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



***Кс. Павел Салабуда***

*Святы Новага года займаюць у нашым грамадстве асобнае месца. Святкуе цэлы свет, святкуюць усе. Вельмі радуе той факт, што на нашых землях дастаткова вялікая колькасць людзей накіроўваецца ў касцёл, каб падзякаваць Богу за стары год і папрасіць блаславення на новы. На пачатку года мы перажываем урачыстасць святой Багародзіцы, а таму мы абавязаны быць у касцёле на супольнай св. Імшы. Вельмі шмат людзей на Новы год прымае ўдзел у святой Імшы апоўначы, просячы аб Божым блаславенні. Заахвочваю нашых вернікаў заўсёды памятаць пра Бога.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

**10 студзеня 2004 г.** – а. Караль Шчэпанэк OFMCap, *проб. Ліпнішкі;*
**13 студзеня 1991 г.** – кс. прэлат Пётр Барташэвіч, *проб. Жалудок;*
**15 студзеня 1991 г.** – кс. Фелікс Сарока, *проб. Адэльск;*
**17 студзеня 2003 г.** – бп Эдвард Самсэль, *Элк – праф. Гродзенскай ВДС;*
**19 студзеня 1968 г.** – кс. Мар'ян Вандалоўскі, *проб. Правыя Масты;*
**20 студзеня 1965 г.** – кс. Юзаф Навасадка, *проб. Тэалін;*
**20 студзеня 1976 г.** – кс. маг-р Стэфан Сечка, *проб. Ліпнішкі;*
**22 студзеня 1965 г.** – кс. Клямент Лікшта, *проб. Быстрыца.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***

*І частка*

*А. д-р Андрэй Шчупал CSsR*

# Хто прыдумаў споведзь?

**Святы Айцец Францішак у сувязі з абвяшчэннем Года міласэрнасці сказаў: "Я часта думаў пра тое, як Касцёл можа зрабіць больш відавочнай сваю місію сведкі міласэрнасці. Гэта шлях, які пачынаецца з духоўнага навяртання. З гэтай таксама прычыны я пастанавіў абвясціць Надзвычайны Юбілей, у цэнтры якога будзе Божая міласэрнасць. Гэта будзе Святы год міласэрнасці" (Bulla Misericordiae Vultus). Таму на працягу гэтага асаблівага года пры канфесіяналах будуць стаяць доўгія чэргі ў чаканні сакраманту Божай міласэрнасці. Пасля сваіх грэшных падзенняў вернікі прагнуць зноў вярнуць адзінства з Хрыстом і прымаць поўны ўдзел у жыцці вялікай сям'і Божых дзяцей – Касцёла.**

Аднак можна сустрэць такіх людзей, якія ўжо на працягу многіх гадоў упорна жывуць у няволі сваіх грахоў і залежнасцей, не маючы намеру вызваляцца з іх. Жадаючы апраўдаць сябе перад іншымі і адначасова быццам бы супакоіць сваё сумленне, яны часта паўтараюць неабгрунтаваныя, шаблонныя фразы: "Навошта хадзіць да споведзі? Усё роўна гэта мне не дапаможа. Споведзь прыніжае годнасць чалавека, яна супярэчыць чалавечай натуры. Гэта ксяндзы прыдумалі споведзь. Я паспавядаюся непасрэдна перад самім Богам. Я ўжо даўно не спавядаўся і не буду, бо ў мяне няма ніводнага граху" і да т.п. Гэта вельмі фальшывыя і небяспечныя погляды. Яны сведчаць аб вялікім рэлігійным невуцтве і часта вынікаюць з адсутнасці ці знікнення рэлігійнага жыцця ў чалавека, які неабгрунтавана выказвае гэтыя погляды. Навучанне Хрыста абсалютна іншае. Неабходна ўважліва яго прааналізаваць.

Хрыстос распачынае сваю збаўчую місію, заклікаючы ўсіх да навяртання: "Навяртайцеся і верце ў Евангелле" (Мк 1, 15). Адначасова Ён паказвае сябе як Той, хто мае ўладу судзіць і дараваць грахі, бо не прыйшоў, каб судзіць, але прабачаць і збаўляць (параўн. Ян 3, 17; Мц 9, 6). Ён шматразова пацвярджае гэта ў канкрэтных падзеях. Да паралітыка звяртаецца словамі: "«Будзь адважным, сыне, адпускаюцца твае грахі». [...] «Але каб вы ведалі, што Сын Чалавечы мае ўладу на зямлі адпускаць грахі». Тады сказаў паралізаванаму: «Устань, вазьмі ложа сваё і ідзі дадому»" (Мц 9, 2. 6). У доме фарысея Сымона Езус кажа пра грэшную жанчыну: "«Даруюцца ёй грахі многія за тое, што яна вельмі палюбіла» [...] А ёй сказаў: «Адпускаюцца табе грахі твае»" (Лк 7, 47–49). Іншым разам Езус прабачыў грахі жанчыне, якую схапілі на чужалостве, грэх адрачэння Пятру, а таксама злодзею з крыжа. Да карыстання гэтай уладай Езус дапускае выбраных людзей, спачатку Апосталаў, а затым іх паслядоўнікаў, якія таксама самі паддаюцца нападам грахоў: "Сапраўды кажу вам: што вы звяжаце на зямлі, тое будзе звязана ў небе. А што развяжаце на зямлі, тое будзе развязана ў небе" (Мц 18, 18). Асаблівым чынам Ён звяртаецца да Сымона Пятра, свайго намесніка і адначасова першага Папы: "Я дам табе ключы ад Валадарства Нябеснага, і што звяжаш на зямлі, тое будзе звязана ў небе, а што развяжаш на зямлі, тое будзе развязана ў небе" (Мц 16, 19). У дзень уваскрасення Езус сустрэўся са сваімі вучнямі і звярнуўся да іх са словамі: "«Спакой вам! Як паслаў Мяне Айцец, так і Я пасылаю вас». І, сказаўшы гэта, дыхнуў і сказаў: «Прыміце Духа Святога. Каму адпусціце грахі, таму будуць адпушчаныя; на кім пакінеце, на тым застануцца»" (Ян 20, 21–23). Гэтымі словамі Езус устанавіў сакрамант пакаяння і паяднання і даверыў уладу яго выканання Апосталам і іх паслядоўнікам. Гэтую місію Касцёл выконвае па сённяшні дзень, хоць спосаб яе рэалізацыі падлягаў пэўнай гістарычнай акамадацыі.

• Працяг у наступным нумары

# АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**Паважаным Ксяндзам: Яну Гавэцкаму, Вітольду Чургану і Мікалаю Ціхановічу**
з нагоды свят Божага Нараджэння жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, людской добразычлівасці. Няхай нованароджаны Божы Сын узмацняе Вас у пакліканні, а кожны дзень жыцця будзе напоўнены людской дабрынёй і задавальненнем ад абранага жыццёвага шляху.

*З удзячнасцю і павагай сям'я Езерскіх з Юрацішкаў*

**Паважаным Айцам: Дзмітрыю Лабкову, Юзафу Гензу, Андрэю Урублеўскаму, Віктару Бохану, Валерыю Мазюку, Эдуарду Пяцельчыцу**
жадаем радасных і добрых свят Божага Нараджэння, мноства шчаслівых хвілін і поспехаў у новым годзе. Няхай Дзіцятка Езус благаслаўляе Вас на доўгія гады служэння Богу і людзям, а Маці Божая Нястомнай Дапамогі атуляе плашчом сваёй мацярынскай дабрыні.

*Апостальства "Маргарытка" і моладзь з пар. Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Ваша самаадданая святарская паслуга яснее Божым Нараджэннем і далучае нас да высокай Божай існасці. Кожнае Ваша слова моцна западае ў душу. Вы нясеце радасць Евангелля дарослым і дзецям. Ад усяго сэрца дзякуем Вам, што Вы з намі ў радасці і ў цярпенні. Жадаем моцнага здароўя, сілы і душэўнага супакою, а таксама ўсіх Божых ласкаў, дароў Святога Духа і апекі Маці Божай.

*Парафіяне з в. Гінэлі*

**Паважаным Ксяндзам Казіміру Мураву і Алегу Жураўскаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Божае Дзіцятка блаславіць Вас на далейшыя гады служэння Богу і людзям, а Божая Маці вядзе Вас найпрыгажэйшай дарогай жыцця. Жадаем таксама шчодрых дароў Святога Духа, душэўнага супакою, вялікай радасці, верных і добрых людзей на Вашым шляху і ўсіх Божых ласкаў.

*З удзячнасцю былыя парафіяне з Дзятлаўшчыны*

**Паважанаму Айцу Дзмітрыю Лабкову і ўсім Працаўнікам касцёла Найсвяцейшага Адкупіцеля**
прагну выказаць шчырую ўдзячнасць за супольныя намаганні па паляпшэнні працы з дзецьмі з інваліднасцю. Асаблівыя словы падзякі накіроўваю Айцу Юзафу за цярплівасць і добрыя словы, якія натхняюць мяне, дапамагаюць працаваць, радавацца жыццю. Дзякую Спадарыні Віялеце за прафесійную працу з бацькамі і дзецьмі. Дзякую таксама Консульству РП за дапамогу касцёлу, які з'яўляецца сапраўдным культурным цэнтрам для ўсіх людзей: незалежна ад веры, поглядаў, магчымасцей. Шчасці Божа!

*Вольга Шульга, дырэктар ГДА "Гродзенскі дзіцячы хоспіс"*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Ёдзіку**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем Божага бласлаўлення, апекі Маці Божай, моцнага здароўя, сілы, цярплівасці на святарскім шляху. Ідзіце ім мужна і верна, поўныя Божай мудрасці і святога запалу. Шчыра дзякуем за ахвярную працу ў нашай святыні, аднаўленне нашага касцёла, вялікую чалавечую дабрыню, мудрасць і прыгожыя казанні. Няхай кожны дзень праходзіць у радасці і спакоі, а навокал будуць толькі добразычлівыя людзі!

*З павагай і ўдзячнасцю парафіяне з Цудзенішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Стволу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем найлепшыя пажаданні. Няхай Бог, якому Вы даверыліся, бласлаўляе Вас у кожны дзень святарскай паслугі, а Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай. Жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці, аптымізму, моцнай веры і нязгаснай любові да Бога і бліжніх.

*Парафіяне з Цудзенішкаў*

**Паважаным Ксяндзам: Віталію Сідорку, Мікалаю Ціхановічу і Андрэю Радзевічу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем добрага здароўя, шмат радасці, поспехаў ва ўсіх справах і Божага бласлаўлення на кожны дзень. Няхай нованароджаны Хрыстос узбагаціць любоўю, напоўніць надзеяй і спакоем, вернасцю і міласэрнасцю, умацуе веру, а Бэтлеемская зорка асветліць шлях да Бога. Дзякуем за Вашу пастарскую апеку.

*Душпастарства службы аховы здароўя*

**Паважаным Ксяндзам: Алегу Жураўскаму, Паўлу Шчарбіцкаму і Аляксандру Пятровічу, дарагім Сёстрам: Ірыне Барцэвіч, Веранiцы Блізнюк і Валянціне Кот**
з нагоды свят Божага Нараджэння сардэчна жадаем добрага здароўя на доўгія гады, радасці і душэўнага супакою. Няхай нованароджаны Езус бласлаўляе Вас у складанай і адказнай паслузе, а Маці Божая нястомна Вамі апекуецца.

*Салезіяне-супрацоўнікі з пар. св. Міхала Арханёла, г. Смаргонь*

**Паважаным Ксяндзам: Пробашчу Алегу Жураўскаму, Паўлу Шчарбіцкаму, Аляксандру Пятровічу, Здзіславу Вэдэру і Клерыку Юрыю Пашкаўцу**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем самыя сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, душэўнага супакою, шмат радасці, усіх Божых ласкаў, добрых і зычлівых людзей на жыццёвым шляху. Няхай нованароджаны Хрыстос бласлаўляе і ахоўвае Вас, а Маці Божая ахінае сваёй ласкай і апекай.

*Парафіяне са Смаргоні*

**Дарагія, паважаныя і любімыя Ксяндзы: Казімір Жыліс, Валерый Быкоўскі, Юрый Канапелька і Дзмітрый Леўчык!**
Ад усяго сэрца шчыра віншуем Вас са святамі Божага Нараджэння і Новым 2016 годам! Жадаем Вам моцнага духоўнага і цялеснага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчасця, мудрасці, каб чуйна і годна весці нашыя душы да Бога, Хрыстовай любові ў Вашыя добрыя сэрцы, супакою, дабрабыту, Божага бласлаўлення ва ўсіх справах, а таксама заступніцтва Панны Марыі і ўсіх Святых. Мы ўдзячны Вам за апеку, наказы, святыя Імшы, за клопат пра паству Хрыстову і за візіты да нас. Мы вельмі цэнім усе Вашыя справы і намаганні ў распаўсюджванні Божага слова і вяртанні блудных сыноў у лона Касцёла!

*З нястомнай малітвай вернікі з ПК-11 і Дзмітрый З.*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем: няхай Дзіцятка Езус адорвае Вас здароўем, сілай і супакоем, а Найсвяцейшая Маці мае ў сваёй апецы. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае святарскі шлях. Шчасці Божа!

*Былыя парафіяне з Навіянкі*

**Паважаным Ксяндзам: Пробашчу Дзмітрыю Несцеру, Юрыю Марціновічу, Віктару Савіцкаму**
з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем здароўя, шчасця, поспехаў. Няхай Дзіцятка Езус нясе супакой у сэрца і душу, Марыя Панна атуляе сваёй апекай, а Бэтлеемская зорка вядзе найпрыгажэйшай дарогай жыцця.

*Вернікі з в. Вінцукі і ваколіц*

• працяг на с. 8

